



Гэты блёк-нот агітатара, прысьвечаны «пазыцы другой пяцігодкі», мае ў сваім зьмесьце матэрыял для дакладаў і гутарак на рабочых і колгасных сходах, політднёх па масава-растлумачальнай рабоце сярод працоўных аднаасобнікаў. У блёк-ноце даецца значны лічбовы матэрыял па выніках першай пяцігодкі і задачах другой, асабліва ў галіне фінансавай політыкі і мобілізацыі сродкаў насельніцтва. Тут скарыстан матэрыял НКФ СССР і дададзены даныя па БССР. Зусім вразумела, што карыстацца гэтым матэрыялам трэба дыфэрэнцыявана, з упорам на адпаведны матэрыял, у залежнасьці ад таго, дзе праводзіцца сход або гутарка. Дакладчыкам раіцца не перагружаць свае даклады вялікай колькасьцю лічбаў, узяць з іх найбольш важныя для данага сходу, пры гэтым абавязкова неабходна выкарыстаць мясцовыя лічбы выкананьня фінпляну па раёне, сельсавеце, прадпрыемстве.

З практыкі масавай работы навокал рэалізацыі мінулых пазык вядома, што пры вялікай яе разгорнутасьці і размаху ў горадзе,

яна на вёсцы пачынаецца са спазьненьнем і не атрымлівае неабходнай раскачкі. У гэтым годзе такога становішча не павінна быць. Адначасова трэба і ў горадзе і на вёсцы разгарнуць шырокую масава-растлумачальную работу, накіраваную на пасьпяховае выкананьне пляну рэалізацыі пазыкі як у горадзе, так і на вёсцы. Пры гэтым трэба даць рашучы адпор настроям такога парадку, што «мы зараз заняты сяўбой, калі пасеем, тады возьмемся за пазыку». Такім опортуністычным устаноўкам на «чарговасьць кампаній», пад якімі хаваюцца няўменьне па-бальшавіцку мобілізаваць масы, спалучаць пасьпяховае правядзеньне сяўбы з выкананьнем выключна важнай гаспадарча-політычнай задачы, якой зьяўляецца рэалізацыя новай пазыкі поўнасьцю і ў тэрмін, трэба абвясьціць рашучую барацьбу.

Задача заключаецца ў тым, каб масава-растлумачальная работа навокал новай пазыкі была шчыльна зьвязана з баявымі задачамі партыі ў правядзеньні сяўбы, выкананьні прамфінпляну і т. д. Дакладчыкам і агітатарам ва ўсёй масавай рабоце, у друку, у лёзунгах, плякатах, прысьвечаных новай пазыцы, трэба з усёй сілай падкрэсьліць лёзунгі, зьвязаныя з ушчыльненьнем тэрмінаў сканчэньня сяўбы: **Да 15 мая поўнасьцю скончыць пасевы ільну! Бульбу пасеяць поўнасьцю да 20 мая і 80 проц. да 15 мая! Пад-**

**цягнуць аднаасобны сэктар! Рашуча ўдарыць па недаацэнцы яго! Адстаючых колгасаў і аднаасобнікаў на буксір перадавых! Сустрэнем пастанову ўраду аб выпуску «пазыкі другой пяцігодкі» поўным выкананьнем плянаў сяўбы ў вызначаны тэрмін! Высокай якасьцю сяўбы, праполкі, уздымам ураджайнасьці соцыялістычных палёў, поўнай рэалізацыяй пазыкі адкажам на заклік партыі і ўраду!**

У горадзе ўся масава-растлумачальная работа павінна быць цесна зьвязана з барацьбой за выкананьне якасных і колькасных паказальнікаў прамфінпляну, за поўнае асваеньне прыгарадных гаспадарак, узмацненьне пролетарскага ўплыву на вёску, за далейшае разгортваньне творчай ініцыятывы, соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Задача дакладчыкаў, агітатараў і ўсяго друку — падкрэсьліць неабходнасьць разгортваньня навокал рэалізацыі новай пазыкі мэтодаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж гарадамі, раёнамі, прадпрыемствамі, сельсаветамі, колгасамі; неабходнасьць організацыі дапамогі пролетарскага гораду сваім падшэфным вёскам у рэалізацыі пазыкі шляхам перанясеньня свайго вопыту, пасылкі брыгад і т. д.

## ПЕРШАЯ ПЯЦІГОДКА ПАБУДАВАНА ЗА СВОЙ ПРОЛЕТАРСКІ КОШТ

1. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з т. **Сталіным** рабочая кляса СССР пераможна завяршыла пяцігодку ў 4 гады. Рашаючыя посьпехі першай пяцігодкі выразіліся ў тым, што пабудован фундамант социялістычнай экономікі, СССР з адсталай, аграрнай краіны ператварыўся ў магутную індустрыяльную краіну, узброеную перадавой сучаснай тэхнікай, краіну Днепрагэсу, Магнітабуду, Кузьнецкбуду, буйнай аўтотрактарнай, вугольнай, мэталюргічнай, машынабудаўнічай прамысловасьці, хімічных, алюмініевых гігантаў - комбінатаў і т. д.

Ленінская політыка социялістычнай індустрыялізацыі і колектывізацыі забясьпечыла перамогу колгаснага і саўгаснага будаўніцтва і разгром клясавага ворага ў горадзе і ў вёсцы і яго агентуры—правага і «левага» опортунізму. СССР ператворан у краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства, узброенага лепшай сельскагаспадарчай тэхнікай; створана ўласная індустрыяльная база для завяр-

шэньня соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Наша краіна ў выніку пяцігодкі ператварылася ў экономічна незалежную і магутную ў сэнсе абароназдольнасьці. Пераможнае завяршэньне першай пяцігодкі забясьпечыла поўную перамогу соцыялізму ў СССР.

На аснове вялізарных дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва СССР, дзякуючы няўхільнаму ажыцьцяўленьню ленінскай нацыянальнай політыкі, БССР як сустаўная частка СССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і пры брацкай дапамозе СССР, ператварылася з адсталай, прыгнечанай і разбуранай ускраіны былой царскай Расіі ў індустрыяльна-аграрную краіну, у рэспубліку буйных фабрык і заводаў, буйнага соцыялістычнага земляробства. БССР—стала краінай суцэльнай пісьменнасьці і разгорнутага культурнага будаўніцтва; расьце і мацнее культура нацыянальная па форме і соцыялістычная па зьмесьце. БССР, знаходзячыся на рубяжы з капіталістычным сьветам, у выніку пераможнага ажыцьцяўленьня першай пяцігодкі ператварылася ў надзейны, сталёвы форпост Савецкага саюзу.

## Дзе мы бярэм сродкі для будаўніцтва

2. Ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну патрабавала аграмадных грашовых сродкаў для фінансаваньня ўсіх галін народнай гаспадаркі

і асабліва асноўнага зьвяна пяцігадовага пляну—цяжкай індустрыі з яе сэрцавінай—машынабудаўніцтвам.

Савецкая ўлада мела адзіны шлях забесьпячэньня фінансаваньня цяжкай індустрыі і ўсяго пяцігадовага пляну—гэта будаўніцтва за свой уласны пролетарскі кошт.

**«Партыя ведала, якім шляхам была пабудавана цяжкая індустрыя ў Англіі, Германіі, Амэрыцы. Яна ведала, што цяжкая індустрыя была пабудавана ў гэтых краінах або пры дапамозе буйных пазык, або шляхам аграбленьня іншых краін, або-ж і тым і другім шляхам адначасова.**

**Партыя ведала, што гэтыя шляхі закрыты для нашай краіны. На што-ж яна разьлічвала?**

**Яна разьлічвала на тое, што, маючы савецкую ўладу і апіраючыся на нацыяналізацыю зямлі, прамысловасьці, транспорту, банкаў, гандлю, мы можам праводзіць найстражэйшы рэжым экономіі для таго, каб накапляць дастатковыя сродкі, неабходныя для аднаўленьня і разьвіцьця цяжкай індустрыі.**

**Партыя прама гаварыла, што гэтая справа патрабуе сур'ёзных афяр і што мы павінны пайсьці на гэтыя афяры адкрыта і сьвядома, калі хочам дабіцца мэты.**

**Партыя разьлічвала падняць гэтую справу ўнутранымі сіламі нашай краіны, без кабальных крэдытаў і пазык са зьне» (Сталін).**

Праводзячы найстражэйшую экономію ў расходваньні сродкаў дзяржавы, усямерна выкарыстоўваючы аграмадныя перавагі савецкай сыстэмы гаспадаркі і апіраючыся на растучы ўздым і актыўнасьць рабочай клясы, на ўсё ўзрастаючае соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, мы дабіліся таго, што першая пяцігодка ў чатыры гады пабудавана за кошт уласных, соцыялістычных накапленьняў, за кошт непасрэднага ўдзелу праз пазыкі і зьберажэньні дзесяткаў мільёнаў працоўных у фінансаваньні нашай пяцігодкі.

3. Фінансаваньне соцыялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі выразілася ў суме 116 млрд. руб. замест намечаных на ўсё пяцігодзьдзе 86 млрд. руб. Па БССР фінансаваньне соцыялістычнага будаўніцтва па дзяржаўным і мясцовым бюджэтах складае суму ў 839 700 тыс. руб. супроць вызначаных па пяцігадовым пляне 782 000 тыс. руб. Асноўнымі крыніцамі накапленьня былі:

1. Накапленьні грамадзкай гаспадаркі.

2. Адлічэньні ў карысьць дзяржавы часткі даходаў ад растучага тавараабароту краіны.

3. Мобілізацыя сродкаў насельніцтва, асабліва па лініі актыўнага ўдзелу працоўных у

пазыках Савецкай дзяржавы і працоўных зьберажэньняў (уклады ў ашчадкасу).

За 4 гады пяцігодкі плян мобілізацыі сродкаў насельніцтва выканан у суме 21,6 млрд. р. (18,6 проц. да агульнай сумы фінансаваньня—116 млрд. руб.).

За першае пяцігодзьдзе (за 4 гады і 3 месяцы асобага кварталу 1930 г.) плян па дзяржаўных пазыках, разьмешчаных сярод насельніцтва, выканан на 5 863,1 млн. замест намечаных па пяцігадовым пляне 3 116,5 млн. р.

Па БССР за першую пяцігодку рэалізавана пазык на суму 131,3 млн. руб., а па пляне вызначалася 60 млн. руб. Значна павялічыўся прыліў сродкаў насельніцтва ў ашчадкасы. Так, на 1/X 1928 г. было ўкладаў на суму 4,3 млн. руб., а на 1/I 1933 г. мы маем 23,1 млн. руб. Колькасьць укладчыкаў у ашчадкасы за гэты час павялічылася з 95,5 тыс. у 1928 г. да 859,9 тыс. у 1933 г.

Пасьпяховае перавышэньне плянавых заданьняў па пазыцы, як і пляну мобілізацыі сродкаў насельніцтва ў першым пяцігодзьдзі, забясьпечвалася непарарыўным ростам даходаў рабочай клясы, колгаснага сялянства і шырокіх працоўных мас і актыўнай падтрымкай фінансавых мерапрыемстваў савецкай улады. Пры росьце народнага даходу за 4 гады пяцігодкі з 24,3 млрд. руб. да сумы звыш 45 млрд. руб. грашовыя прыбыткі насельніцтва выраслі з 23,7 млрд. руб. да 70 млрд. руб.

Магчымасьць росту багацьця краіны і значных адлічэньняў з народнага даходу на фінансаваньне соцыялістычнага будаўніцтва пры адначасовым неперарыўным росьце матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных СССР вызначаецца тым, што ў нас:

**«Разьмеркаваньне народнага даходу адбываецца не ў інтарэсах узбагачэньня эксплёататарскіх кляс і іх шматлікай паразытычнай чэлядзі, а ў інтарэсах сыстэматычнага павышэньня матэрыяльнага становішча рабочых і сялян і расшырэньня соцыялістычнай вытворчасьці ў горадзе і ў вёсцы» (Сталін).**

## Куды ідуць пазыкі і працоўныя зьберажэньні

4. За першае пяцігодзьдзе (за 4¼ гады) у адну толькі прамысловасьць было ўкладзена 23 млрд. 300 млн. руб., у тым ліку ў цяжкую прамысловасьць (група «А») укладзена 20,1 млрд. руб. Прыцягненьне сродкаў насельніцтва на гэты час складала звыш 21 млрд. руб. Такім чынам, удзел найшырэйшых мас сваімі сродкамі і даходамі ў соцыялістычным будаўніцтве па сваіх разьмерах раўняецца ўсёй суме аграмадных капіталаўкладаньняў у цяжкую прамысловасьць За першае пяцігодзьдзе

ў соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі было ўкладзена 15 700 млн. руб., з іх 12 700 млн. руб. за кошт дзяржавы, у тым ліку 9,4 млрд. руб. капітальных укладаньняў замест 7,2 млрд. руб. па пяцігадовым пляне. На соцыяльна-культурнае будаўніцтва (больніцы, школы, клюбы і т. д.) было выдзелена 25 млрд. руб. замест намечаных па пляне на пяцігодзьдзе 20,9 млрд. руб.

Па БССР з агульнай сумы капіталаўкладаньняў у асноўныя фонды народнай гаспадаркі ў суме 243 млн. руб. у прамысловасьць укладзена 128 млн. руб., у сельскую гаспадарку 97 500 тыс. руб., на транспорт і сувязь 22 300 тыс. руб., на комунальную і жыльлёвую гаспадарку 61 800 тыс. руб., на соцыяльна-культурнае будаўніцтва ўкладзена 373 100 т. р.

У выніку пяцігодкі мы дабіліся таго, што ў нас створана чорная мэталюргія—аснова індустрыялізацыі краіны, трактарная прамысловасьць, аўтомобільная прамысловасьць, станкабудаўніцтва, сучасная хімічная прамысловасьць, сучаснае сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва, авіяцыйная прамысловасьць, створана буйнейшая ў сьвеце вытворчасьць электрычнай энэргіі, нафтавых продуктаў і вугалю; створана новая вугольна-мэталюргічная база на Ўсходзе. Замест адзінай базы тэкстыльнай прамысловасьці на Поўначы нашай краіны будзем у бліжэйшы час мець

дзьве новых базы ў Сярэдняй Азіі і Заходняй Сібіры.

**«І мы ня толькі стварылі гэтыя новыя аграмадныя галіны прамысловасьці, але мы іх стварылі ў такім маштабе і ў такіх разьмерах, перад якімі бляднеюць маштабы і разьмеры эўропейскай індустрыі» (Сталін).**

У першай пяцігодцы пабудавана шмат гігантаў індустрыі для вырабу сельскагаспадарчых машын: Саюзсельмаш у Растове коштам у 248 млн. руб., Сталінградзкі трактарны—125 млн. руб., Харкаўскі трактарны—121 млн. руб., Чалябінскі трактарны — 155 млн. руб., «Чырвоны пуцілавец» (трактарны аддзел)—415 млн. руб., Гомсельмаш у БССР і т. д.

Гэтае будаўніцтва мы забясьпечылі ў значнай меры сродкамі мільёнаў працоўных, укладзеных у пазыкі нашай дзяржаве.

СССР у выніку пяцігодкі заняў:

| | |
|---|---|
| **па вырабе трактароў** | **1-е месца ў сьвеце** |
| **па сельгасмашынабудаўніцтве** | **1-е месца ў сьвеце** |
| **па вырабе комбайнаў** | **1-е месца ў сьвеце** |
| **па агульным машынабудаўніцтве** | **1-е месца ў Эўропе і 2-е месца ў сьвеце** |
| **па чыгуне** | **1-е месца ў Эўропе і 2-е месца ў сьвеце** |

| | |
|---|---|
| **па электраэнэргіі** | **3-е месца ў сьвеце** |
| **па нафце** | **1-е месца ў Эўропе і 2-е месца ў сьвеце** |
| **па торфе** | **1-е месца ў сьвеце** |
| **па вугалю** | **4-е месца ў сьвеце** |
| **па хіміі** | **4-е месца ў сьвеце.** |

У галіне сельскай гаспадаркі на працягу якіх-небудзь трох год створана больш 200 тыс. колгасаў, якія аб'ядноўваюць звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак з ахопам звыш 70 проц. усіх сялянскіх плошчаў. Створана каля 5 тыс. савецкіх гаспадарак, 2446 машына-трактарных станцый, забясьпечаных сучаснымі сродкамі працы, майстэрнямі для рамонту.

За 4 гады першай пяцігодкі вёска атрымала больш чым на 1500 млн. руб. сучасных сельскагаспадарчых машын. Колгасы атрымалі больш 120 тыс. трактароў магутнасьцю ў 1900 тыс. конскіх сіл.

У БССР за пэрыод пяцігодкі машынаўзброенасьць сельскай гаспадаркі павысілася ў чатыры з лішнім разы. Організавана 57 МТС, 429 саўгасаў. Колгасаў ёсьць 8910, якія ахопліваюць 42 проц. сялянскіх гаспадарак, а разам з саўгасамі мы маем у соцыялістычным сэктары вёскі ахоп да 55 проц. пасеўнай плошчы.

**«Партыя дабілася таго, што кулацтва як кляса разгромлена, хоць і не дабіта яшчэ,**

**працоўнае сялянства вызвалена ад кулацкай кабалы і эксплёатацыі і пад савецкую ўладу падведзена моцная экономічная база ў вёсцы, база колектыўнай гаспадаркі.**

**Партыя дабілася таго, што СССР ужо пераўтворан з краіны дробнасялянскай гаспадаркі ў краіну самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце» (С т а л і н).**

Ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі пануе прынцып соцыялізму і выгнаны адтуль капіталістычныя элемэнты.

Першая пяцігодка, якая мае сусьветна-гістарычнае значэньне, пабудавана за кошт найвялікшага героізму, самаадданасьці генэральнай лініі партыі найшырэйшых мільённых мас рабочых і колгасьнікаў, за кошт энтузіязму і ўдарніцтва перадавой часткі рабочай клясы, за кошт уласнага фінансаваньня пролетарскай дзяржавы і працоўных мас найвялікшых пляноў будаўніцтва першай пяцігодкі, за кошт уласных соцыялістычных накапленьняў, за свой уласны пролетарскі кошт.

## II. ЭКОНОМІЧНЫ КРЫЗІС РАЗБУРЫЎ ФІНАНСЫ КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІН, КАТАСТРОФІЧНА ПАГАРШАЮЧЫ МАТЭРЫЯЛЬНАЕ СТАНОВІШЧА ПРАЦОЎНЫХ

5. У той час, як у **СССР** у пэрыод першай пяцігодкі гіганцкімі крокамі ішоў уздым новага, соцыялістычнага будаўніцтва, патос раз-

горнутага будаўніцтва, нараджаліся герої і ўдарнікі новабудоўляў, беспрацоўе было канчаткова ліквідавана, прамысловасьць перайшла на 7-гадзінны рабочы дзень, **у краінах капіталізму,** як у ПАЗШ, Англіі, Германіі і інш. ішло неперарыўнае падзеньне вытворчасьці, якое дасягнула ў 1932 г.:

**У галіне прамысловасьці** ПАЗШ 56 проц. узроўню 1928 г., Англіі—да 80 проц., Германіі—да 55 проц., Польшчы—да 52 проц.

**У галіне сельскай гаспадаркі.** У асноўных збожжавытвараючых краінах капіталізму пасеўныя плошчы скарочаны на 8—10 проц., у ПАЗШ па бавоўне скарочана пасеўная плошча на 15 проц., па цукровых бураках у Германіі і Чэха-Славакіі на 22—30 проц., па ільне ў Літве і Латвіі—на 25—30 проц., у Польшчы зусім спынілася вытворчасьць сельскагаспадарчых машын.

**Катастрофічны рост беспрацоўя** дасягнуў, паводле афіцыйных даных, у **ПАЗШ** к канцу 1932 г. 12 млн. чалавек; у **Англіі** колькасьць беспрацоўных таксама, паводле афіцыйных даных (якія звычайна пераўменшаны ва ўсіх капіталістычных краінах), узрасла з 1290 тыс. у 1928 г. да 2,8 млн. чалавек у 1932 г.; у **Германіі** ўзрастаньне з 1376 тыс. беспрацоўных у 1928 г. да 6,5 млн. у 1932 г. і да 9 млн. у гэтым годзе пры фашысцкім рэжыме. У адносінах да ўсяго ліку занятых рабочых про-

цант беспрацоўных складае: у Англіі—23 проц., у Германіі—33 проц., у ПАЗШ—34 проц., або, іншымі словамі, на кожныя 3—4 працуючых прыпадае 1 беспрацоўны.

Па даных, яўна пераўменшаных, колькасьць беспрацоўных у радзе капіталістычных краін перавысіла 30 млн. чалавек.

Адначасова адбываецца сыстэматычнае зьніжэньне зарплаты рабочых, якое дасягнула ў 1932 г. па аднэй толькі Германіі 50 проц. у параўнаньні з узроўнем 1928 г. У параўнаньні з 1929 г. скарачэньне фонду зарплаты ў ПАЗШ складае 47 проц. Скарачэньне або поўная адсутнасьць фонду страхаваньня рабочых яшчэ больш узмацняе бяздомнасьць і галечу. Ня лепшае становішча ў капіталістычных краінах працуючага рабочага. Зарплата яго скарочана, эксплёатацыя ўзмацняецца яшчэ больш, няма ніякай упэўненасьці ў заўтрашнім дні. Зусім процілеглае становішча рабочых СССР.

**«За граніцай рабочы прыціснут капіталізмам, ён ня ведае, што яго чакае заўтра. Можа быць яго заўтра звольняць, яго жонка і дзеці астануцца галоднымі.**

**А ў нас рабочы мае многае: яго дзіця ў піонэратрадзе, яго жонка працуе, ён можа пайсьці ў клюб вучыцца, адпачываць. У некаторых сем'ях, дзе раней працаваў адзін чалавек, цяпер працуе 2—3.**

**Кожны рабочы об'ектыўна адчувае палепшаньне свайго матэрыяльнага становішча» (Л. Кагановіч).**

Голад, галеча і разарэньне, як вынік сельскагаспадарчага крызісу, ахапілі сялянскія і працоўныя масы капіталістычных краін.

У Польшчы і Заходняй Беларусі 81,25 проц. усіх рабочых зьяўляюцца беспрацоўнымі. Нават працуючыя поўны тыдзень рабочыя атрымліваюць 10 злотых на тыдзень. Але такіх меншая частка. Астатнія і гэтага ня маюць. Сярод іх пануе голад. «Бацькі сем'яў уцякаюць з дому, каб толькі ня бачыць сваіх галодных дзяцей»,—адзначае нават буржуазная газэта «Кур'ер Віленскі».

Страшэнны рост галечы і голаду мы маем у вёсках Заходняй Беларусі. Больш паловы зямлі знаходзіцца ў 4 тыс. памешчыкаў, меншая частка яе ў 436 тыс. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Падатковы прэс усё мацней выціскае апошнія сокі працоўных сялян. Апошнюю карову, падушку забіраюць за падатак і сяляне астаюцца літаральна асуджанымі на галодную сьмерць.

Капіталізм ня ў сілах выбрацца з катастрофічнага становішча. З кожным днём узмацняюцца супярэчнасьці ўнутры капіталістычнай сыстэмы гаспадаркі, абвастраецца клясавая барацьба, нарастае рэволюцыйны крызіс.

*Найбольш ярка гэта паказалі* першамайскія выступленьні пролетарыяту і працоўных капіталістычных краін, дэмонстраваўшых пад сьцягамі Комінтэрну.

Выхад з крызісу капіталісты ўсіх краін шукаюць у яшчэ большай эксплёатацыі рабочай клясы, у жорсткай барацьбе ў лягеры капіталістаў, за ўзбраеньне, у ліхаманкавай падрыхтоўцы нябывалай яшчэ па разьмерах і жахах новай імпэрыялістычнай вайны, у першую чаргу вайны супроць СССР.

## На што ідуць пазыкі ў капіталістычных краінах

Ня гледзячы на рэзкае падзеньне даходаў працоўнага насельніцтва капіталістычных краін і значнае павялічэньне дэфіцытаў у бюджэтах гэтых краін (дэфіцыт амэрыканскага бюджэту склаў у 1930-31 г. 903 млн. доляраў, у 1931-32 г.—2885 млн. доляраў, дэфіцыт францускага бюджэту ў 1930-31 г. склаў 3,2 млрд. франкаў, у 1931-32—5,6 млрд. франкаў), аграмадныя сумы грошай з бюджэтаў і дзяржаўныя пазыкі расходуюцца на браняносцы, авіяцыю, дальнабойныя пушкі і ўсе іншыя віды сьмертаноснай зброі. Расходы на ваенныя мэты дасягаюць у радзе краін (Польшча, Францыя і інш.) каля $2/3$ усяго бюджэту. Рабочая кляса капіталістычных дзяржаў, працоўнае сялянства з нянавісь-

цю адносяцца да капіталізму. Пазыкі і іншыя фінансавыя мерапрыемствы, правадзімыя капіталістамі, не сустракаюць падтрымкі ў шырокіх мас працоўных. Нямецкі фашызм на чале з Гітлерам выкачвае апошнія даходы працоўных Германіі, для таго, каб узброіць фашыстаў супроць рабочых і аказаць фінансавую дапамогу буйным памешчыкам, якія разарыліся, банкірам і прамыслоўцам. Толькі нядаўна буйнейшыя памешчыкі Ўсходняй Прусіі атрымалі звыш 1 млрд. руб. субсыдыі ад германскага ўраду, у той час як сялянская гаспадарка Ўсходняй Прусіі прадавалася за даўгі з малатка.

Буйную фінансавую дапамогу аказваюць урады ПАЗШ, Францыі, Англіі і інш. разарыўшымся банкірам, буйным фэрмэрам і прамыслоўцам. У той-жа час у гэтых краінах пануюць голад, галеча, бяздомнасьць і дзіцячая сьмяротнасьць сярод рабочых і сялян.

Посьпехі нашай пяцігодкі, дасягнутыя ўласнай працай працоўных СССР, без кабалы і дапамогі са зьне, умацаваўшы матэрыяльнае становішча працоўных мас нашай краіны, усяляюць бадзёрасьць і ўпэўненасьць у іх у заўтрашні дзень, ствараюць усе ўмовы для поўнага пабудаваньня ў другім пяцігодзьдзі бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

**«Посьпехі пяцігодкі мобілізуюць рэволюцыйныя сілы рабочай клясы ўсіх краін супроць капіталізму» (Сталін).**

## III. КУДЫ ПАЙШЛІ СРОДКІ АД ПАЗЫК СССР

6. Звыш 5 млрд. 863 млн. руб. далі дзесяткі мільёнаў працоўных СССР у пазычку дзяржаве за 4 гады пяцігодкі (у 1928-29 г.—575,7 млн. руб., у 1929-30 г. і за асобы квартал—1072,5 млн. руб., у 1931 г.—1746,1 млн. руб. і ў 1932 г.—2468,8 млн. руб.). На сродкі ад пазык першай пяцігодкі пабудаваны сотні новых заводаў, фабрык, МТС, саўгасаў, рабочых клюбаў, тысячы новых дамоў для рабочых і інш. З году ў год ішоў рост ліку пазыкатрымальнікаў і сумы пазык, выпушчаных дзяржавай па патрабаваньні саміх працоўных мас.

| Назва пазык | Колькасьць пазыкатрымальнікаў | Сума рэалізацыі (у млн. руб.) |
| --- | --- | --- |
| 1-я пазыка індустрыялізацыі | 6 млн. | 200 |
| 2-я „ „ | 8 „ | 507 |
| 3-я „ „ | 11 „ | 828 |
| „Пяцігодка ў чатыры гады“ | 12 „ | 1072 |
| Трэцяга рашаючага году пяцігодкі | 33 „ | 2030 |
| Чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі | 40 „ | 2710 |

| | 1-ая пазыка індустрыялізацыі | 2-я ... індустрыялізацыі | 3-я ... | [illegible] | [illegible] | [illegible] |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Рабочыя і служачыя | 113 | 415 | 590 | 725 | 1448 | [illegible] |
| Сяляне | 10 | 45 | 181 | 287 | 470 | 650 |
| Іншае насельніцтва | 77 | 47 | 57 | 60 | 112 | 130 |
| Усяго | 200 | 507 | 828 | 1072 | 2030 | 2710 |

Апрача гэтага, працоўныя прымаюць удзел сваімі зьберажэньнямі (уклады ў ашчадкасах) у фінансаваньні нашых соцыялістычных пляна ў.

**40 млн. пазыкатрымальнікаў, 30 млн. укладчыкаў**—такая падтрымка працоўнымі фінансавых мерапрыемстваў савецкага ўраду.

### Якая асаблівасьць савецкіх пазык

7. Пазыкі савецкай дзяржавы не аддзялімы ад агульных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Нашы пазыкі цалкам пашлі на будаўніц-

тва новых гігантаў у галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, культурнага будаўніцтва. Кожная выпушчаная пазыка ў пэрыод індустрыялізацыі і барацьбы за пяцігодку ў чатыры гады адлюстроўвае героічныя этапы барацьбы рабочай клясы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, за перамогу соцыялізму ў СССР, супроць замахаў на мірную працу ў СССР з боку імпэрыялістычных драпежнікаў і іх агентаў унутры краіны.

**1-я пазыка індустрыялізацыі** народнай гаспадаркі СССР была выпушчана ўрадам у 1927 г. па прапанове шматтысячных рабочых сходаў **у адказ на фінансавую блёкаду англійскай буржуазіі.** Англійскія цьвёрдалобыя спадзяваліся, што політыка індустрыялізацыі будзе сарвана, калі яны спыняць усякія экономічныя і фінансавыя адносіны з СССР. **1-я пазыка індустрыялізацыі** была адказам мільёнаў працоўных на провокацыі англійскіх капіталістаў і паказала несакрушальнае адзінства народаў СССР у барацьбе за соцыялістычнае будаўніцтва і экономічную незалежнасьць СССР.

**2-я пазыка індустрыялізацыі** была выпушчана ўрадам СССР у 1928 г. па патрабаваньні рабочых, працоўнага сялянства **ў адказ на шахцінскае шкодніцтва,** якое рыхтавала падрыў гаспадарчай магутнасьці нашага Саюзу і вайну імпэрыялістаў супроць СССР.

**3-я пазыка індустрыялізацыі 1929 г.** Імпэрыялісты спровокавалі конфлікт з СССР на Далёкім Усходзе. Па ўсёй краіне пракацілася хваля абурэньня і протэсту супроць провокацыі імпэрыялістаў. У адказ на гэтыя провокацыі шматтысячныя сходы рабочых выносілі патрабаваньні аб выпуску пазыкі соцыялістычнай індустрыялізацыі.

Пазыка **«Пяцігодка—у чатыры гады»** была выпушчана ў 1930 г. па ініцыятыве рабочых Масквы і Ленінграду для пасьпяховага заваршэньня пяцігадовага пляну ў чатыры гады.

Пазыка **«Трэцяга рашаючага году пяцігодкі»** была выпушчана ў 1931 г. па ініцыятыве рабочых электразаводу (Масква) і іншых прадпрыемстваў з мэтай пасьпяховага вырашэньня сусьветна-гістарычнай задачы заваршэньня пабудаваньня фундаманту соцыялістычнай экономікі нашай краіны.

Пазыка **«Чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі»** была выпушчана ў 1932 г. па ініцыятыве рабочых аўтозаводу імя Сталіна (былы АМО) і іншых прадпрыемстваў у мэтах пасьпяховага завяршэньня пяцігодкі ў чатыры гады.

Непарыўная сувязь пазык СССР з гаспадарчымі задачамі нашай краіны, поўная падтрымка і давер'е нашым пазыкам з боку працоўных СССР,—такая асаблівасьць савецкіх пазык.

Значныя выгады атрымліваюць працоўныя нашай краіны ад пазык. За 4 гады пяцігодкі выплачана дзяржавай працоўным у выглядзе процантаў і выйгрышаў па пазыках 841,9 млн. руб.

У сувязі з правядзеньнем «Дня пазыкатрымальніка» было аплочана на 1 красавіка 1933 г. **2 100 000** выйгрышаў і ахоплена праверкай каля **17 млн.** пазыкатрымальнікаў. Такім чынам праверка выявіла, што прыкладна **кожны восьмы пазыкатрымальнік** выйграў па облігацыях пазык пэўную суму грошай. Два важнейшых вынікі выявіў «Дзень пазыкатрымальніка». **1-ы вынік.** Мільёны рабочых, калгасьнікаў і працоўных, ахопленых праверкай выйгрышаў, праявілі аграмадны інтарэс да гэтай кампаніі. «Цяпер мяне ня трэба агітаваць за пазыку, я ахвотна падпішуся, бо бачу, на што ідуць нашы пазыкі і якую карысьць яны прыносяць асабіста працоўным»—гэтая тыповая заява аднэй работніцы характарызуе, у дастатковай меры, станоўчыя адносіны шырокіх мас працоўных да нашых пазык. **2-і вынік** заключаецца ў тым, што мы павінны патрабаваць ад нашых ашчадкас яшчэ больш чоткай, уважлівай і штодзеннай работы ашчадкас па абслугоўваньні пазыкатрымальнікаў, праверцы выйгрышаў, сваячасовай раздачы облігацый, організацыі даведачнай работы і інш.

## IV. ВЫКАНАЦЬ ПЛЯН ПЕРШАГА ГОДУ ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ

3. «У адрозьненьне ад першай пяцігодкі другая пяцігодка будзе пераважна пяцігодкай **асваеньня** новых прадпрыемстваў у прамысловасьці, пяцігодкай **організацыйнага ўмацаваньня** новых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы—колгасаў і саўгасаў, што, вядома, не выключае, а мяркуе далейшае разьвіцьцё новага будаўніцтва.

Гэта значыць, што другая пяцігодка, калі яна хоча разьлічваць на сур'ёзны посьпех, павінна дапоўніць сучасны лёзунг **новага будаўніцтва** новым лёзунгам **асваеньня** новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі» (з рэзолюцыі аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б). «Вынікі першай пяцігодкі і народна-гаспадарчы плян 1933 г.—першага году другой пяцігодкі»).

Побач з ажыцьцяўленьнем лёзунгу новага будаўніцтва, задачы асваеньня новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі патрабуюць максымальнай барацьбы рабочых, ударнікаў і ўдарніц за далейшае павышэньне продукцыйнасьці працы, палепшаньне якасьці продукцыі і зьніжэньне сабекошту. Ажыцьцяўленьне гэтых задач забясьпечыць пасьпяховую барацьбу за далейшае расшырэньне крыніц накапленьня, за забесьпячэньне «да дру-

гой паловы пяцігодкі новага магутнага разьбегу як у галіне будаўніцтва, так і ў галіне прыросту прамысловай продукцыі» (**Сталін**).

## За што мы змагаемся ў 1933 г.

9. 1933 г.—першы год другой пяцігодкі—зьяўляецца годам далейшага разьвіцьця народнай гаспадаркі СССР. У гэтым годзе ў галіне прамысловасьці мы будзем змагацца:

**за прырост продукцыі прамысловасьці ў параўнаньні з 1932 г. на 16,5 проц.;**

**за выкананьне праграмы капітальнага будаўніцтва па ўсёй народнай гаспадарцы ў 18 млрд. руб.;**

**за выплаўку 9 млн. тон чыгуну;**

**за выплаўку 8,9 млн. тон сталі;**

**за выплаўку 6,2 млн. тон пракату;**

**за пуск 15 новых домен, 51 мартэна, 15 пракатных станаў і 4 блюмінгаў;**

**за выпрацоўку 16 300 млн. кілёват-гадзін электраэнэргіі;**

**за здабычу 84 млн. тон вугалю;**

**за выпуск машын на 6,5 млрд. руб.;**

**за выпуск хімічнай продукцыі на 1 839 млн. руб.;**

**за выпуск продукцыі лёгкай прамысловасьці на 8,8 млрд. руб.;**

**за выпуск продукцыі харчовай прамысловасьці на 7,7 млрд. руб.;**

**за выпуск продукцыі лясной прамысловасьці на 2 072 млн. руб.;**

**за выпуск прамкоопэрацыяй продукцыі на 7 920 млн. руб.;**

**за штодзенную пагрузку на чыгуначным транспорце 58 тыс. вагонаў;**

**за павялічэньне продукцыйнасьці працы ў прамысловасьці на 14 проц.;**

**за зьніжэньне сабекошту прамысловай продукцыі на 3,9 проц.;**

**за зьніжэньне сабекошту будаўніцтва на 15 проц.;**

**за павялічэньне заработнай платы па ўсёй народнай гаспадарцы на 6,8 проц. і па прамысловасьці на 9 проц.;**

**за выкананьне програмы культурнага будаўніцтва ў разьмеры 11,7 млрд. руб.;**

**за выкананьне дзяржаўнага бюджэту па даходах у 34 689 руб., па расходах у 33 169 млн. руб.**

Па БССР мы павінны змагацца за прырост прамысловай продукцыі ў 1933 г. на 22 проц., што складае 1039 млн. руб. яе кошту. Асаблівую ўвагу трэба накіраваць:

**на прырост продукцыйнасьці працы па цяжкай прамысловасьці на 15,9 проц., па лёгкай—на 9,5 проц., па лясной—на 33,4 проц., па харчовай—на 22 проц.;**

**па зьніжэньні сабекошту па цяжкай прамысловасьці на 7,66 проц., па лёгкай—на**

3 проц., па харчовай—на 2,2 проц., па лясной—на 1 проц.;

па выкананьні пляну капіталаўкладаньняў у 75,3 млн. руб., што дае прырост супроць 1932 г. на 5,8 проц.

За асваеньне новапабудаваных прадпрыемстваў і ўводу іх у эксплёатацыю, як Гомельскі шклозавод, Магілеўскі трубаліцейны завод, Крычаўскі цэмантны, Быхаўскі ацэтонавы, Аршанскі сэлікатны, ЦЭЦ у Менску і т. д.;

за рост электрыфікацыі на 23,1 проц., што складзе 78,3 тыс. кілёват-гадзін;

за выкананьне праграмы культбудаўніцтва ў суме 14,8 млн. руб.;

за выкананьне дзяржбюджэту па даходах у суме 237,1 млн. руб. і выдатках у суме 237,1 млн. руб.

Забесьпячэньне гэтай праграмы будаўніцтва патрабуе разгортваньня барацьбы за выкананьне плянаў накапленьня, у першую чаргу па важнейшай крыніцы накапленьня — унутрыпрамысловаму, што дасягаецца штодзеннай барацьбой на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва рабочых і работніц за выкананьне заданьняў па продукцыйнасьці працы, зьніжэньні сабекошту і палепшаньні якасьці продукцыі.

Важнейшыя гаспадарчыя задачы ў першым годзе другой пяцігодкі высунуты кому-

ністычнай партыяй у галіне сельскай гаспадаркі.

У 1933 г. мы змагаемся за **забесьпячэньне пасеўнай плошчы:**

**пад яравыя культуры ў 97 млн. *га* (па БССР 2,680 тыс. *га*)**
**„ азімыя „ „ 38,5 млн. *га***

**За падняцьцё ўраджайнасьці:**

**па збожжавых культурах—на 13 проц. (па БССР на 29 проц.)**
**па бавоўне—на 8 проц.**
**„ ільне—на 20 проц.**
**„ сланэчніку—25 проц.**
**„ цукровых буракох—на 32 проц.**

За давядзеньне ліку МТС да 2 768 (з іх 65 па БССР).

За ўмацаваньне харчовай і сыравіннай базы прамысловасьці і індустрыяльных цэнтраў.

За далейшы ўздым сельскай гаспадаркі і нясупынны рост даходаў колгасаў і паасобных колгасьнікаў.

Бязьлітасная барацьба з клясавым ворагам, з усімі відамі і праявамі опортунізму, узмацненьне рэволюцыйнай пільнасьці зьяўляюцца неабходнымі ўмовамі выкананьня пляну 1933 г.

Партыя пасылае тысячы лепшых сваіх сыноў на ўмацаваньне соцыялістычнага земляробства. Работнікі політаддзелаў МТС і саўгасаў—гэтыя моцныя, адданыя бальшавікі—цэмантуюць вясковую парторганізацыю і ў гэтым залог пасьпяховага выкананьня задач 1933 г. у сельскай гаспадарцы.

## V. „ПАЗЫКА ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ“

### (выпуск першага году)

Аднэй з магутных прылад ў барацьбе за поўнае фінансаваньне нашых плянаў зьяўляюцца нашы масавыя пролетарскія пазыкі. «Пазыка другой пяцігодкі» (выпуск першага году) накіравана на забесьпячэньне пляну першага году другой пяцігодкі. Пасьпяховай падпіскай на пазыку забясьпечым важнейшую задачу другой пяцігодкі пабудаваньня бяскласавага соцыялістычнага грамадзтва.

10. «Пазыка другой пяцігодкі» выпушчана на 10 год з 1 кастрычніка 1933 г. па 1-е кастрычніка 1943 г. у суме 3 млрд. руб. Пазыка складаецца з двух выпускаў: процантнага (бяз выйгрышаў) і бяспройгрышнага.

Облігацыі пазыкі выпушчаны коштам **100 руб.** кожная. Апрача цэлых облігацый па 100 руб., выпушчаны таксама облігацыі па 50, 25, 10 і 5 руб., якія зьяўляюцца часткамі цэлых облігацый. Па процантнаму выпуску

ёсьць часткі цэлых облігацый толькі ў 25 і 10 руб.

Пяцірублёвыя облігацыі выпушчаны як разьменныя. Кожны выпуск пазыкі (процантны і бяспройгрышны) падзяляюцца на разрады, па 100 млн. руб. кожны разрад. Разрады ў сваю чаргу падразьдзяляюцца на сэрыі. Кожны разрад бяспройгрышнага выпуску мае 20 тыс. сэрый па 50 сторублёвых облігацый у сэрыі. У кожным разрадзе процантнага выпуску—100 тыс. сэрый па 10 сторублёвых облігацый ў сэрыі. Даход па облігацыях бяспройгрышнага выпуску выплачваецца толькі выйгрышамі. На працягу 10 год на кожную облігацыю абавязкова выпадае адзін з выйгрышаў. Выйгрышы **на 100-рублёвую облігацыю ўстаноўлены ў размеры 3000, 1000, 500, 250, 200 і 150 руб.,** уключаючы ў гэтыя сумы зварот кошту облігацыі (100 руб.). Па кожнай дзялімай частцы облігацыі выплачваецца адпаведная частка выйгрышаў. Напрыклад, па облігацыі ў 50 руб. выплачваецца палавіна сумы выйгрышу, выпаўшага на цэлую сторублёвую облігацыю, і т. д.

## Якія перавагі мае новая пазыка

Такім чынам, у адрозьненьне ад пазыкі «4-га завяршаючага году пяцігодкі» облігацыі новай пазыкі пагашаюцца адначасова з

падзеньнем па іх выйгрышу. За 10 год адбудзецца 40 тыражоў выйгрышаў па 4 тыражы ў год. Тыражы пачнуцца ў 1934 г. пасьля аплаты падпісчыкамі облігацый, набытых у растэрміноўку па колектыўнай падпісцы.

На кожныя 100 млн. руб., атрыманых дзяржавай у пазычку па бяспройгрышным выпуску, будзе выплачана па облігацыях за 10 год 198 млн. руб. У першым і другім гадох звароту пазыкі з 1 млн. облігацый выйграе 31 200 облігацый у кожным годзе.

Выйгрышы па облігацыях бяспройгрышнага выпуску выплачваюцца ашчадкасамі па афіцыйных табліцах, якія зьмяшчаюцца ў газэтах «Известия ЦИК СССР и ВЦИК», «Экономическая жизнь», «Крестьянская газета» і ў газэце таго выканкому, на тэрыторыі якога праводзіцца тыраж. Выплату выйгрышаў ашчадкасы пачынаюць па атрыманьні аднэй з указаных газэт, наступных за нумарам газэты, у якім зьмешчана афіцыйная табліца.

Выйгрышы па 3000 руб. аплачваюцца толькі пасьля папярэдняй праверкі госнакам сапраўднасьці выйграўшай облігацыі.

Выйграўшая облігацыя ў далейшых тыражох выйгрышаў ня ўдзельнічае. З прычыны таго, што ў выплачваемую па выйгрышах облігацыі суму ўключаецца таксама кошт облігацыі, то пры выплаце выйгрышу облігацыя трымальніку не зьвяртаецца і астаецца ў ашчадкасе. Купоны па облігацыях процант-

нага выпуску выплачваюцца па наступленьні іх тэрміну ўсімі ашчадкасамі. Пазыкатрымальнікі могуць атрымліваць выйгрышы і кошт купонаў у любы час з дня аплаты, але не пазьней 1 кастрычніка 1948 г.

На облігацыі «Пазыка другой пяцігодкі» пашыраецца дзеяньне грамадзкага контролю, установаленага ў адносінах продажу і залогу облігацый усіх выпускаў пазыкі «Пяцігодка ў чатыры гады».

Усе облігацыі бяспройгрышнага выпуску выкупляюцца пры выплаце выпаўшых на іх выйгрышаў, у суму якіх, як сказана вышэй, уваходзіць кошт облігацый.

11. Увесь даход па облігацыях процантнага выпуску выплачваецца ў разьмеры 10 проц. у год па купонах. Аплата купонаў праводзіцца адзін раз у год—1 кастрычніка, пачынаючы з 1 кастрычніка 1934 г. Па купону 100-рублёвай облігацыі выплачваецца 10 рублёў, па кожнай дзялімай частцы облігацыі выплачваецца адпаведная доля купоннага даходу (па купону 25-рублёвай облігацыі — 2 руб. 50 кап. і т. д.).

Тыражоў выйгрышаў па облігацыях процантнага выпуску не праводзіцца.

Пагашэньне облігацыі процантнага выпуску пачынаецца з 1 кастрычніка 1939 г. Якія іменна облігацыі падлягаюць выкупу, будзе вызначацца тыражамі пагашэньня. Трымальніку вышаўшай у тыраж облігацыі вы-

плачваецца не кошт з 1 кастрычніка таго году, у якім адбыўся тыраж. З гэтага тэрміну спыняецца і цячэньне процантаў па облігацыях, якія вышлі ў тыраж.

Пазыкатрымальнікі могуць прад'явіць облігацыі процантнага выпуску да аплаты ў любы час, пачынаючы з указанага тэрміну, але не пазьней 1 кастрычніка 1948 г. Працоўныя набываюць облігацыі ў парадку колектыўнай падпіскі, або за наяўны разьлік.

## Якім парадкам праводзіцца падпіска

12. **Тэрмін рэалізацыі.** Рэалізацыя пазыкі пачынаецца з 15 мая адначасова ў горадзе і на сяле.

Масавая работа па пазыцы праводзіцца такімі тэмпамі, каб за дзьве дэкады былі ахоплены падпіскай ўсе рабочыя, служачыя і працоўныя ў гарадох і гарадзкіх пасёлках з тым, каб адначасова аказаць ўсямерную **дапамогу падшэфным сёлам і колгасам.** Ахоп падпіскай усіх колгасьнікаў і ўцягненьне ў пазыку ўсіх працоўных сялян-аднаасобнікаў праводзіцца ў найкарацейшы тэрмін, устаноўлены для кожнай рэспублікі, краю і вобласьці.

Рабочыя, колгасьнікі, служачыя, організаваныя саматужнікі, вучні і гарадзкое неорганізаванае працоўнае насельніцтва набываюць

облігацыі пазыкі па колектыўнай падпісцы. Аплата облігацый праводзіцца ў растэрміноўку. Для рабочых, служачых і іншых груп працоўных у гарадох устаноўлена растэрміноўка з 1 чэрвеня 1933 г. па 1 красавіка 1934 г. **Першы ўзнос па падпісцы ўплачваецца з зарплаты за першую палову чэрвеня 1933 г.**

Працягласьць растэрміноўкі па падпісцы для колгасьнікаў устанаўліваецца райвыканкомамі на мясцох, але не пазьней, чым да 1 лютага 1934 г. Працоўныя сяляне-аднаасобнікі купляюць облігацыі за наяўны разьлік. Працоўныя аднаасобнікі таксама могуць аплаціць заяўленую суму облігацый ў некалькі тэрмінаў.

Разьлікі з падпісчыкамі па пазыцы праводзяцца па месцы іх работы. Узносы па пазыцы з рабочых, служачых і іншых груп працоўных, якія атрымліваюць зарплату, утрымліваюцца роўнымі часткамі пры кожнай выплаце на падставе паручэньняў, даных падпісчыкамі сваёй адміністрацыі.

Колгасьнікі ўплачваюць узносы па сваёй падпісцы наяўнымі грашыма ўпаўнаважаным сельсавету.

Пасьля ўплаты ўсіх узносаў падпісчык атрымлівае на рукі облігацыі тых выпускаў і коштаў, якія былі заяўлены пры падпісцы.

**З прычыны таго, што ўсе тыражы выйгрышаў па новай пазыцы пачнуцца пасьля ўплаты ўсіх узносаў, то замацаваньне нумароў**

облігацый за падпісчыкамі, як гэта рабілася па ранейшых пазыках, праводзіцца ня будзе. Гэтым самым адпадае неабходнасьць у выдачы папярэдніх замацавальных талёнаў. Облігацыі па «Пазыцы другой пяцігодкі» (выпуск першага году) будуць разданы ўсім падпісчыкам да пачатку тыражоў.

## У якіх умовах праходзіць рэалізацыя новай пазыкі

13. Правядзеньне кампаніі «пазыкі другой пяцігодкі» (выпуск першага году) праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы ўнутры краіны і новага праяўленьня варожасьці і нянавісьці да СССР з боку міжнародных драпежнікаў-капіталістаў. Пасьпяховым правядзеньнем «пазыкі другой пяцігодкі» нанясём зруйнавальны ўдар па клясавым ворагу, узмоцнім экономічную незалежнасьць СССР і ўмацуем абароназдольнасьць нашай краіны.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і ў непрымірымай барацьбе «з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай, у барацьбе з «лявацкімі» перагібамі і контррэволюцыйным трацкізмам, шляхам бязьлітаснага разгрому ўсякага роду антыпартыйных груповак, шляхам рашучага выкрыцьця агентаў клясавага ворага з партбілетам у

кішэні ў ліку буржуазных перараджэнцаў»[1]) дасягнуты рашаючыя посьпехі ў будаўніцтве соцыялізму, у перамозе над клясавым ворагам. Клясавы вораг разьбіт, хоць і не дабіт яшчэ, і рэшткі гэтых былых і цяпер паміраючых клясаў расьсеяліся па краіне і прабуюць весьці падрыўную работу супроць савецкай улады.

**«Гэтыя былыя людзі распаўзьліся па нашых заводах і фабрыках, па нашых установах і гандлёвых організацыях, па прадпрыемствах чыгуначнага і воднага транспорту і галоўным чынам—па колгасах і саўгасах. Распаўзьліся і захаваліся яны там, накінуўшы маску «рабочых» і «сялян», прычым той-сёй з іх пралез нават у партыю» (Сталін).**

Клясавы вораг разьбіты і расьсеяны, перабудаваўся, дзейнічаючы шляхам шкодніцтва супроць савецкай .ўлады «ціхай сапай». Ён прабуе выкарыстаць любое мерапрыемства савецкай улады, каб дыскрэдытаваць і зганьбіць яго і прасунуць у масы працоўных свае «лёзунгі», накіраваныя супроць гэтых мерапрыемстваў. Так, напрыклад, клясавы вораг спрабуе выступіць супроць нашых пазык,

---

[1]) З рэзолюцыі студзеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б).

якія карыстаюцца вялікім давер'ем у рабочай клясы і колгаснага сялянства, і агітуе супроць падпіскі на пазыку. Выкрываць гэтую клясава-варожую агітацыю нашых ворагаў— найпершая задача кожнага рабочага і працоўнага.

Узмацненьнем рэволюцыйнай пільнасьці ў адносінах клясавага ворага, 100-процантнай падпіскай на «Пазыку другой пяцігодкі» забясьпечым стварэньне яшчэ больш магутнай фінансавай базы дыктатуры пролетарыяту. Разгорнем соцыялістычнае спаборніцтва на хутчэйшае і поўнае разьмяшчэньне «Пазыкі другой пяцігодкі»! Дадзім трохтыднёвы заработак у новую пазыку!

Рабочая кляса, колгаснае сялянства, працоўныя аднаасобнікі БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе бальшавіцкага ЦК сустрэнуць выпуск «Пазыкі другой пяцігодкі» новым уздымам працоўнага энтузіязму ў барацьбе за пасьпяховае правядзеньне сяўбы, за выкананьне прамфінпляну. Датэрміновым і поўным выкананьнем пляnaў рэалізацыі пазыкі, яшчэ больш шчыльным згуртаваньнем сваіх шэрагаў вакол партыі і яе ленінскага ЦК на чале з т. Сталіным, працоўныя БССР адкажуць на выпуск пазыкі ўмацаваньня фінансавай базы першага году другой пяцігодкі.

# ЛЁЗУНГІ
## да кампаніі „пазыкі другой пяцігодкі“

---

Трохтыднёвы заработак у «пазыку другой пяцігодкі».

---

Забясьпечым пагалоўны ўдзел працоўных ў пазыцы!

---

Трохтыднёвы даход у «пазыку другой пяцігодкі»!

---

Ні аднаго колгасьніка і колгасьніцы, не падпісаўшыхся на пазыку!

---

Працоўныя сяляне-аднаасобнікі!

Трохтыднёвы даход у «пазыку другой пяцігодкі»!

Раўняйцеся па колгасьніках!

---

Бальшавіцкімі тэмпамі разьмясьцім «пазыку другой пяцігодкі»!

---

Даб'ёмся новых перамог на фронце соцыялістычнага будаўніцтва!

---

Сродкамі новай пазыкі забясьпечым выкананьне народна-гаспадарчага пляну 1933 г.— першага году другой пяцігодкі!

---

Пазыкі — выпрабаваная зброя пролетарыяту ў будаўніцтве соцыялізму за свой ўласны пролетарскі кошт.

---

Сотні новых заводаў, фабрык, саўгасаў і МТС пабудаваны на пазыкі першай пяцігодкі. «Пазыкай другой пяцігодкі» забясьпечым пабудову соцыялістычнага грамадзтва ў СССР!

---

Удзелам у «пазыцы другой пяцігодцы» ўзмоцнім экономічную незалежнасьць СССР, умацуем абароназдольнасьць нашай краіны!

---

Сіла наша ў тым, што мы будуем соцыялізм уласнымі сродкамі «без кабальных крэдытаў і пазык са зьне» (Сталін).

---

Дадзім пролетарскай дзяржаве новыя сродкі ў «пазыку другой пяцігодкі»!

---

Экономічны крызіс разбурыў фінансы капіталістычных краін. У нас створана буйнейшая фінансавая база пролетарскай дыктатуры!

---

Сродкі «пазыкі другой пяцігодкі» на далейшае ўзмацненьне фінансавай магутнасьці СССР!

---

Разгорнем соцыялістычнае спаборніцтва фабрык і заводаў, саўгасаў, МТС, колгасаў на хутчэйшае і поўнае разьмяшчэньне «пазыкі другой пяцігодкі»!

---

Ударнікі і ўдарніцы! Будзьце першымі ў падпісцы на «пазыку другой пяцігодкі»!

Організуйце разьмяшчэньне пазыкі сярод працоўных!

Ударнікі і ўдарніцы колгасных палёў!

Будзьце ў першых радох падпісчыкаў на «пазыку другой пяцігодкі»!

Організуйце разьмяшчэньне пазыкі ў вёсцы!

Фінансы—магутная прылада пролетарскай дыктатуры ў барацьбе з рэшткамі капіталістычных элемэнтаў.

«Пазыкай другой пяцігодкі» ўмацуем фінансавую магутнасьць СССР!

Пагалоўным удзелам у «пазыцы другой пяцігодкі» забясьпечым выкананьне 12-мільярднай програмы культурнага будаўніцтва 1933 г.!

